# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№ 2 (177)
люты 2017

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"


## У НУМАРЫ:

### Іна Снарская: Ідэнтычнасць вынікае з дзейнасці. Недастаткова проста сказаць: "Я – беларус!"

Мы згадалі Першы З'езд беларусаў свету і паспрабавалі адшукаць рэцэпт узмацнення нацыянальнай свядомасці разам з беларускай паэткай, якая жыве ва Украіне.

**Працяг на старонцы 3.**

### Ігар Іваноў: Скарынаўская Біблія – гэта смартфон таго часу

Дарадца ў Беларускім музеі і бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лондане распавядае пра гісторыю і перспектывы і скарбы, якія там захоўваюцца.

**Працяг на старонцы 5.**

### У Варшаве ствараюць суботнюю беларускую групу ў садку

Для стварэння такой групы польскае заканадаўства патрабуе ўсяго траіх дзяцей, а зацікаўленых ужо каля дзясятку сем'яў.

**Працяг на старонцы 6.**

Шчыры дзякуй нашаму сябру з Канады Пятру Мурзёнку і нашым сябрам з ЗША Янку і Надзі Запруднікам за падтрымку Згуртавання "Бацькаўшчына"!



# СЁМЫ З'ЕЗД БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ:

## СУЧАСНЫЯ ВЫКЛІКІ БЕЛАРУСІ І СТРАТЭГІЯ СУПРАЦОЎНІЦТВА З БЕЛАРУСАМІ ЗАМЕЖЖА

15 лютага адбылося пасяджэнне Малой Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына". Удзельнікі пасяджэння ўхвалілі фінансавую справаздачу і справаздачу пра дзейнасць Згуртавання за 2016 год (апошняя неўзабаве з'явіцца на сайце арганізацыі).

Асноўным жа пытаннем пасяджэння была падрыхтоўка да Сёмага з'езда беларусаў свету. Большасцю галасоў сябры Вялікай Рады зацвердзілі правядзенне З'езда 15–16 ліпеня ў Мінску.

Кожны З'езд беларусаў свету ўздымае важныя для беларускай нацыі пытанні. Сёмы з'езд не будзе выключэннем. Ён пройдзе пад тэмай "Беларуская нацыя, беларуская дзяржаўнасць, беларускае замежжа – выклікі сучаснасці і стратэгіі развіцця".

Акрамя пленарнага пасяджэння, праца дэлегатаў будзе праходзіць у трох секцыях:

1. Гістарычныя карані беларускай дзяржаўнасці.
2. Беларуская дыяспара і Беларусь: стратэгія ўзаемадзеяння ў сучасных умовах.
3. Беларуская мова і культура як падмурак дзяржаўнай незалежнасці.

У арганізацыйны камітэт па правядзенні З'езда ўвайшлі сябры Вялікай Рады (сорак сем асобаў з Беларусі і сорак сем – з замежжа), а таксама старшыня Атаўскага аддзялення Згуртавання беларусаў Канады Пётр Мурзёнак.

Сустаршынямі Арганізацыйнага камітэту па правядзенні З'езда абраныя Яўген Вапа (Польшча), Радзім Гарэцкі (Беларусь), Янка Запруднік (ЗША), Алена Макоўская (Беларусь), Алег Рудакоў (Расія), Ніна Шыдлоўская (Беларусь). Таксама быў зацверджаны склаў Працоўнай групы на чале са старшынёй Рады Нінай Шыдлоўскай.

Ухваліўшы бюджэт З'езда, нормы прадстаўніцтва дэлегатаў і меркаваную колькасць гасцей, сябры Малой Рады абмеркавалі і зацвердзілі падрабязны План дзейнасці Згуртавання на 2017 год.

Акрамя пытанняў, звязаных з Сёмым з'ездам беларусаў свету, план утрымлівае шэраг важных пунктаў па арганізацыйна-прававой, выдавецкай і культурна-асветніцкай дзейнасці Згуртавання, у тым ліку ў межах грамадскай культурніцкай кампаніі "Будзьма беларусамі!".

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

навіны

# ПОЛЬСКІ ПРЭЗІДЭНТ УЗНАГАРОДЗІЎ ДЫРЭКТАРА "БЕЛСАТА" АГНЕШКУ РАМАШЭЎСКУЮ-ГУЗЫ

Дырэктара "Белсата" Агнешку Рамашэўскую-Гузы адзначылі Крыжам Свабоды і Салідарнасці.

Гэтая ўзнагарода прызначаецца прэзідэнтам Польшчы на просьбу Інстытуту нацыянальнай памяці.

"Гэта вельмі важная для мяне ўзнагарода, таму што гэта мера прызнання фактаў... Менш і больш важныя дзяржаўныя ўзнагароды часта атрымліваюць у залежнасці ад густу той ці іншай каманды ва ўладзе.



Крыж Свабоды і Салідарнасці з'яўляецца доказам адданасці працы на карысць свабоды і Салідарнасці. Гэта прызнанне за барацьбу за свабодную Польшчу", – сказала дырэктар "Белсата" неўзабаве пасля цырымоніі.

Крыжам Свабоды і Салідарнасці адзначаюць грамадскіх актывістаў, якія змагаліся з камуністычнай дыктатурай Польскай Народнай Рэспублікі.

**НМ, "Белсат"**

# ПАСОЛ БЕЛАРУСІ Ў АЎСТРАЛІІ ВІКТАР ШЫХ СУСТРЭЎСЯ З МЯСЦОВЫМІ БЕЛАРУСАМІ

Уражанням ад сустрэчы ён падзяліўся ў facebook:

"18 лютага падчас рабочага візіту ў сталіцу Вікторыі сустрэўся з мясцовымі беларусамі. Распавёў пра беларускую прысутнасць у гэтай краіне, аб планах па арганізацыі мерапрыемстваў, што дазволяць пашырыць веды аўстралійцаў аб Беларусі. Больш падрабязна расказаў пра Фестываль ў Каўры ў канцы сакавіка, аб тым, як там будзе прэзентавана наша краіна. Вядома ж, заклікаў усіх, хто можа, далучыцца да гэтай падзеі.



Супрацоўнік Пасольства М. Макараў даў адказы па консульскіх пытаннях: афармленне пашпартоў, даверанасцей, розніца статусу ўладальнікаў пашпартоў серыі "PP" і пашпартоў так званых унутраных серый і г.д.

Наогул, было прыемна пабачыцца з суайчыннікамі, абмяняцца з імі думкамі па самых розных пытаннях.

У той жа самы дзень мела месца яшчэ адна сустрэча нашай маленькай пасольскай "дэлегацыі". Гаворка ідзе аб наведванні Беларускага клуба, сябры якога апынуліся ў далёкай Аўстраліі пасля ліхалецця Другой сусветнай вайны. Некаторыя з гаспадароў сустрэчы ўжо нарадзіліся на аўстралійскай зямлі, але ў сэрцы носяць Радзіму сваіх бацькоў і не забыліся бацькоўскай мовы. Былі кранутыя тым, як сп-р Яўген Груша вітаў нас вершам М. Сяднёва "Землякі".

На мой погляд, гутарка была вельмі зацікаўленая і шчырая. Дзякуем Беларускаму клубу за гасціннасць!

Падумалася, вось было б добра, каб тыя беларусы, што прыехалі ў Аўстралію цягам апошніх 10–20 гадоў, пазнаёміліся са сваімі землякамі, якіх закінуў сюды няпросты лёс амаль 70 гадоў таму назад. Ім ёсць, напэўна, што расказаць і аб жыцці, і аб любові да Радзімы, і аб тым як віравала жыццё беларусаў на аўстралійскай зямлі ў 60-80 гады. ".

**В. Шых, Пасол Беларусі ў Аўстраліі**

# У МІНСКУ ЎСТАЛЮЮЦЬ ПАМЯТНЫ ЗНАК "БЕЛАРУСАМ СВЕТУ"

Пра гэта паведаміў намеснік старшыні савета Беларускага фонду культуры Тадэвуш Стружэцкі на прэс-канферэнцыі на тэму "Беларускі фонд культуры: 30 гадоў пошукаў, знаходак, расчараванняў".

Знак, як чакаецца, будзе ўсталяваны да Сёмага з'езда беларусаў свету. Цяпер гарадскія ўлады вызначаюць месца. Тадэвуш Стружэцкі дадаў, што праводзіцца вялікая работа па падтрымцы беларусаў замежжа. У мінулым годзе прайшлі сустрэчы з беларусамі ў Польшчы, у гэтым годзе плануюцца сустрэчы з беларусамі Літвы.

**БелТА**

# ДЗІЎНАЕ ЖЫЦЦЁ Ў СЭРЦЫ ПУШЧЫ

Журналіст Беларускай службы Польскага радыё Яраслаў Іванюк атрымаў узнагароду імя Мацея Лукасевіча ў катэгорыі "Цывілізацыя і культура" за 2016 год.

Узнагароду ўручыла Асацыяцыя польскіх журналістаў за рэпартаж пра гісторыю Падляшша, паказаную праз прызму жыцця 65-гадовага Сяргея Нічыпарука, жыхара вёскі Буды ў Белавежскай пушчы.

Сімвалічна тое, што ўзнагарода ўручана ў гадавіну трагічных падзеяў: пацыфікацыі беларускіх вёсак атрадамі польскага ўзброенага падполля ў 1946 годзе.

**Юры Ліхтаровіч, "Польскае радыё"**

# ОПЕРНАМУ ВЫКАНАЎЦУ АРКАДЗЮ ВАЛАДОСЮ Ў ПАРЫЖЫ ЎРУЧАНЫ МЕДАЛЬ Ф. СКАРЫНЫ

Вядомаму опернаму выканаўцу, ураджэнцу Беларусі і грамадзяніну Францыі Аркадзю Валадосю 16 лютага ў Парыжы ўручаны медаль Францыска Скарыны.

Узнагарода прысуджана за вялікі асабісты ўклад у папулярызацыю беларускай культуры за мяжой. Цырымонія ўзнагароджвання адбылася ў беларускім пасольстве ў Парыжы. Медаль уручыў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Францыі Павел Латушка.

Аркадзь Валадось нарадзіўся і атрымаў музычную адукацыю ў Беларусі. Затым больш як 10 гадоў быў вядучым барытонам у Марыінскім тэатры ў Санкт-Пецярбургу. Навучаўся ў "Ла Скала". З 1979 года жыве ў Францыі. Выступаў на вядучых оперных пляцоўках Еўропы і ЗША, з'яўляецца лаўрэатам многіх міжнародных конкурсаў.

У Парыжы наш суайчыннік заснаваў асацыяцыю "Абмен: Францыя-Беларусь", якая садзейнічае наладжванню беларуска-французскага супрацоўніцтва ў галіне культуры. Пачынаючы з 1992 года Аркадзь Валадось рэгулярна арганізоўваў студэнцкія абмены паміж кансерваторыяй французскага горада Нансі і Беларускай дзяржаўнай акадэміяй музыкі. Па ініцыятыве і пры яго непасрэдным удзеле больш за 25 гадоў рэгулярна арганізоўваліся гастролі ў Францыі аркестра Рэспубліканскай гімназіі-каледжа пры Белдзяржакадэміі музыкі, а таксама сімфанічнага аркестра "Маладая Беларусь" гэтай жа акадэміі.

У 2015 годзе Аркадзь Валадось выступіў ініцыятарам арганізацыі нацыянальнага павільёна беларускіх мастакоў і скульптараў на адной з самых прэстыжных выставак у свеце "Art Capital", якая праходзіць у Парыжы пад патранатам прэзідэнта Францыі. Па выніках удзелу беларускія мастачка Валянціна Шоба і скульптар Сяргей Парцянкоў



былі ўдастоены прэстыжнай узнагароды – прэміі Тэйлара. Акрамя таго, у 2016 годзе Аркадзь Валадось выступіў ініцыятарам правядзення канцэрта, прысвечанага 110-годдзю Дзмітрыя Шастаковіча ў Шэметаве Мядзельскага раёна. Ідэю такога канцэрта ён выношваў некалькі гадоў пасля таго, як даведаўся, што прадзед гэтага вялікага кампазітара быў родам з гэтых мясцін, канцэрт адбыўся ў касцёле Маці Божай Нястомнай Дапамогі.

На цырымоніі прысутнічалі прадстаўнікі французскай грамадскасці і беларускай дыяспары, якія пражываюць у Францыі.

**Аліна Грышкевіч, БелТА**

гутарка

# Іна Снарская: ІДЭНТЫЧНАСЦЬ ВЫНІКАЕ З ДЗЕЙНАСЦІ. НЕДАСТАТКОВА ПРОСТА СКАЗАЦЬ: "Я – БЕЛАРУС!"

Паэтка Іна Снарская даўно жыве ва Украіне. Пры канцы мінулага года яна прэзентавала ў Мінску дыск, запісаны разам з музыкай Таццянай Грыневіч. А перад тым завітала на сядзібу ЗБС "Бацькаўшчына", дзе мы з ёй пагутарылі пра бягучыя поспехі, творчыя планы, згадалі Першы З'езд беларусаў свету і паспрабавалі адшукаць рэцэпт узмацнення нацыянальнай свядомасці.



Іна Снарская (злева) і Таццяна Грыневіч.

**– Па ўсім відаць, у свае прыезды на Радзіму Вы маеце шмат справаў. Можа, распавядзеце пра іх?**

– Я адведала Саюз беларускіх пісьменнікаў – мой прыезд стаў магчымым дзякуючы падтрымцы Саюза, а таксама ЗБС "Бацькаўшчына". Абмяркоўвалі публікацыю маёй прозы ў "Дзеяслове", а таксама магчымасць выдання новай кнігі паэзіі, бо мой апошні зборнік выходзіў у Беларусі пятнаццаць гадоў таму. Іншыя кнігі друкаваліся па-беларуску ва Украіне.

**– Але ж Вы і па-ўкраінску пішаце таксама?**

– Пішу, ёсць публікацыі ў часопісах, зборніках. Але на падрыхтоўку ўкраінскай кнігі не хапае часу, бо працую на тэлебачанні. Даводзіцца пісаць сцэнары, займацца рэжысурай, арганізоўваць здымкі – раблю перадачы і дакументальныя фільмы пра лёсы адметных асобаў Палтаўшчыны.

**– А не было жадання рабіць нешта пра знакавых асобаў Беларусі?**

– У 2005 годзе на нашым тэлебачанні выходзіў дакументальны цыкл "Пра Беларусь з любоўю". Мы некалькі разоў прыязджалі ў Мінск здымалі матэрыялы. Гэты праект трымаўся на маім і айца Уладзіслава Завальнюка, пробашча Чырвонага Касцёла, энтузіязме. Ксёндз Уладзіслаў аплочваў дарогу, у Касцёле мы спыняліся на час здымак. Але іншай дапамогі, акрамя таго, што адну перадачу прафінансаваў беларус замежжа Віктар Сулкоўскі, мы не знайшлі. Звярталіся ў Пасольства Беларусі ва Украіне. Спадар Валянцін Вялічка, які быў тады амбасадарам, выказаў сваю павагу, але далей за інтэрв'ю з ім для пачатку цыклу справа не пайшла.

**– А тыя перадачы карысталіся глядацкім попытам?**

– І беларусы, і ўкраінцы глядзелі з задавальненнем.

**– Вядома, што Вы не толькі пісьменніца, а яшчэ і спецыялістка па металаканструкцыях...**

– Я з чырвоным дыпломам скончыла будаўнічы факультэт Наваполацкага політэхнічнага інстытута, спецыялізавалася на жалезабетоне. Нейкі час працавала на адпаведнай кафедры Палтаўскага будаўнічага інстытута. Але ўвесь час адчувала, што гэта "не маё". "Маёй" была журналістыка – я з сёмага класа друкавалася ў раённай газеце.

**– Прыкладна ў той час, як Вы вучыліся, у Полацку існавала вельмі моцная супольнасць нацыянальна свядомых людзей, якіх узначальваў Уладзімір Арлоў...**

– Гэта было аб'яднанне "Крыніцы" пры газеце "Хімік". Акрамя Уладзіміра Арлова, свядомай беларускай мяне зрабілі Валянціна Аксак, Сяржук Сокалаў-Воюш, Лявон Баршчэўскі, Якуб Лапатка, мастакі Цімохавы... Я мела вясковае дзяцінства, маму-выкладчыцу беларускай мовы, чытала беларускія кнігі, але не загаварыла б па-беларуску, каб не гэтыя людзі... Таксама вялікі ўплыў на мяне аказаў Рыгор Барадулін, які быў рэдактарам маёй першай кнігі "Пачакай, мая птушка..." Амаль трыццаць гадоў у іншай краіне я змагаюся за родную мову. Прычынай гэтага можа быць яшчэ тое, што я называю генетычнай памяццю. Гэта памяць маіх продкаў – расстраляных дзядоў Іосіфа і Клаўдзія Снарскіх. Я цікавілася сваім радаводам, даведалася, што Снарскія былі нават сярод удзельнікаў паўстання Каліноўскага...

**– Ці не балюча было пакідаць такі асяродак?**

– Вельмі балюча! Я нават плакала на ўласным вяселлі. Але ж паехала ў іншую краіну за сваім лёсам, каханнем! На жаль, свядомасць у дваццаць два гады не такая самая, як у пяцьдзесят. Бывае, так зацісне сум за Радзімай, што адчуваю сябе віннай, што пакінула сваю родную зямлю...

**– На гэтую сітуацыю можна паглядзець і з іншага боку: ад'ехаўшы, Вы пашырылі геаграфію беларушчыны. У Вашай асобе Беларусь "прырасла" Палтаўшчынай. Можа, і Радзіма Вам вінная. А ці часта ў Беларусі бываеце, дарэчы?**

– У лепшым выпадку два разы на год. Прыязджаючы, стараюся сустрэцца з сябрамі, з роднымі, адведаць бацькоўскія магілы, вырашыць творчыя справы. Тут я за тыдзень раблю столькі справаў, колькі ў Палтаве не раблю за месяц.

**– Вы робіце фільмы, пішаце кнігі, а нядаўна прэзентавалі працу ў новым для сябе фармаце – музычны кампакт-дыск.**

– З дапамогай Таццяны Грыневіч я ажыццявіла даўнюю мару. У Палтаве запісала найлепшыя вершы розных гадоў, а Таццяна ўжо тут падрыхтавала дыск. Я вельмі ёй удзячная. Справа гэтая – працаёмкая. Зрабіць дыск не нашмат лягчэй, чым падрыхтаваць кнігу да выдання.

**– Што чуваць пра культурна-асветнае аб'яднанне "Агніца", якое Вы ўзначальваеце?**

– Не маю сілаў і часу, каб займацца "Агніцай" гэтаксама актыўна, як раней. Болей карысці беларускай справе прыносяць выступы. Пасля кожнай сустрэчы падыходзяць землякі і кажуць, што ўспаміналі Радзіму, калі чулі беларускія вершы... Два гады таму ў Палтаве ўтварылася аб'яднанне паэтаў і бардаў "Надежды маленький оркестрик". Ва Украіне зараз вельмі цяжка, а нашыя канцэрты дапамагаюць людзям на нейкі час забыць пра эканоміку, вайну, асабістыя праблемы... Акрамя гэтага, Палтаўская абласная арганізацыя Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны, да якога я таксама належу, рэалізуе праект "Літаратурна-краязнаўчыя маршруты "Землякі" – адраджаем памяць пра ўкраінскіх пісьменнікаў: ствараем музейныя экспазіцыі, ладзім выступы, канферэнцыі. Гэты праект атрымаў невялікі грант ад Еўрапейскага саюза, перамог у міжнародным конкурсе сярод дасланых з усёй Украіны. Мы гэтым ганарымся. Так што справаў хапае...

**– Разам з "Аркестрыкам" Вы па-беларуску выступаеце?**

– Украінцы заўсёды просяць чытаць менавіта па-беларуску.

**– У 2015 годзе на пытанне пра спосабы ўзмацнення нацыянальнай свядомасці ў беларусах Вы адказалі, што не ведаеце такіх спосабаў. Можа, за год штосьці змянілася, і цяпер Вы зможаце падзяліцца досведам?**

– Недастаткова проста сказаць: я – беларус. Ідэнтычнасць вынікае з дзейнасці. Трэба хоць нешта рабіць для Радзімы, ісці да людзей, нягледзячы на цяжкасці ці асабістыя крыўды. А крыўды здараюцца... Гадоў сем таму я прэзентавала ў Кіеве сваю кнігу "Верасовыя песні зары". Запрасіла на гэты вечар прадстаўнікоў беларускай арганізацыі з Кіева. У выніку прыйшло шмат украінцаў, а беларусы не прыйшлі. А вось у Харкаў мясцовыя беларусы мяне запрашаюць пастаянна, ужо некалькі вечарын зладзілі... Аляксандр Кузьменка з Харкава, калі даведаўся, што на шостую частку беларус, самастойна вывучыў мову. Яму ніякія спосабы ўзмацнення нацыянальнай свядомасці не былі патрэбныя. Цяпер размаўляе і піша па-беларуску. Дмытро Шчарбіна самастойна вывучыў беларускую мову – ён вядомы перакладчык, добра перакладае і з украінскай на беларускую, і наадварот, ды не толькі прозу, але і вершы... Так што пачынаць трэба з сябе. Натхняць іншых сваім уласным прыкладам.

**– У ліпені "Бацькаўшчына" ладзіць Сёмы З'езд беларусаў свету. Завітаеце на яго?**

– Буду вельмі старацца, каб прыехаць. Я ж у "Бацькаўшчыне" ад самага заснавання, усе гэтыя гады ў статусе сябра Вялікай Рады. Гэты факт – вялікая падтрымка для мяне, ён узмацняе пачуццё далучанасці да беларускай справы. Мяне дасюль узрушваюць успаміны пра Першы З'езд беларусаў свету: сустрэча ладзілася ў Оперным тэатры, адкрываў яе Васіль Быкаў, яму апладзіравалі стоячы. На вуліцы спявалі гімн "Магутны Божа", трымаючы запаленыя свечкі... Пры падтрымцы "Бацькаўшчыны" быў выдадзены ў 2001 годзе і мой паэтычны зборнік "Лясная панна". А ў сваёй Палтаве я намагаюся рабіць усё ад мяне залежнае, каб гучала беларуская мова. Нясу родную Беларусь іншым людзям – ад сэрца да сэрца.

*Гутарыў Сяргей Кандраценка, прэс-сакратар ЗБС "Бацькаўшчына"*

навіны

# БЕЛГАЗПРАМБАНК ВЯРНУЎ У БЕЛАРУСЬ КНІГУ СКАРЫНЫ

Гэта “Малая падарожная кніжка”, надрукаваная Францішкам Скарынам у Вільні ў 1522 годзе.



Эксперты лічаць менавіта яе першай кнігай, выдадзенай на беларускіх землях.

Поўных асобнікаў “Малой падарожнай кніжкі” не захавалася. Найлепш захаваліся асобнікі ў бібліятэках Масквы, Капенгагена і Санкт-Пецярбурга. Самыя поўныя – у Расійскай нацыянальнай бібліятэцы (20 кніг), у Каралеўскай бібліятэцы ў Капенгагене (18 кніг).

Асобнік з карпаратыўнай калекцыі Белгазпрамбанка – адзіны асобнік “Малой падарожнай кніжкі” ў нашай краіне.

**Паводле tut.by**

## СТВОРАНА ІНІЦЫЯТЫВА ПА ПОШУКУ МЕСЦА ПАХАВАННЯ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ

Аб гэтым паведаміў намеснік старшыні савета Беларускага фонду культуры Анатоль Бутэвіч.

Ініцыятыўная група занятая пошукам дакументаў. Спрыянне ім гатова аказаць Міністэрства замежных спраў Беларусі. Акрамя таго, Беларускі фонд культуры, грамадская наглядальная камісія пры Міністэрстве культуры па пытаннях аховы гісторыка-культурнай спадчыны вылучылі прапанову аб прысваенні Нацыянальнай бібліятэцы імя Францыска Скарыны, і яна атрымала падтрымку, адзначыў Анатоль Бутэвіч.

**БелТА**

гутарка

# ТУДАЎЛЯНЕ – ЖЫХАРЫ РАСІІ, ЯКІЯ ХОЧУЦЬ ЗВАЦЦА БЕЛАРУСАМІ



Фота з артыкула Надзеі Грынковай «Одежда тудовлян Ржевского уезда»

Адзенне тудаўлянаў

Шэраг жыхароў Цвярской вобласці Расіі адносіць сябе да этнаграфічнай групы тудаўлянаў і просяць расійскія ўлады прызнаць іх беларусамі паводле нацыянальнасці.

Суполка тудаўлянаў “УКантакце” нешматлюдная, але кіраўнік суполкі Аляксандар Цеханоўскі кажа, што тудаўлянамі-беларусамі ў Расійскай Федэрацыі лічаць сябе тысячы людзей: “У мінулым мы мелі свой дыялект беларускай мовы, але цяпер хацелі б вучыць класічную беларускую мову, бо гэта нас зблізіць з самой Беларуссю. Нам трэба адзінства. У музеях захаваліся прадметы даўніны з нашай гісторыі і культуры, але пра нас не пішуць у падручніках. Калі нас прызна́юць беларусамі, гэта дапаможа нам адрадзіць нашу культуру, распавесці пра яе нашчадкам тудаўлянаў, дасць магчымасць заручыцца падтрымкай дзяржавы ў гэтым пытанні. А прызнанне Беларуссю нас сваімі дапамагло б ахвочым атрымаць грамадзянства рэспублікі ў спрошчаным парадку, а таксама асэнсаваць сябе беларусамі па праве нараджэння”.

### Ці сапраўды яны беларусы?

Прафесар кафедры этналогіі і фальклору Універсітэта культуры, доктар мастацтвазнаўства Вольга Лабачэўская кажа, што на гэтае пытанне наўрад ці нехта дасць адназначны адказ: навуковых даследаванняў амаль не было, звестак пра тудаўлянаў няшмат. Яна дапускае, што ў іх сапраўды могуць быць крывіцкія карані, хоць на Бранскім Палессі ўжо наўрад ці жылі беларусы.

Апошняя на сёння вялікая публікацыя пра тудаўлянаў – кніга 2004 года “В стране тудовлян”, ды яе аўтар сам прызнаецца, што гэта – не навуковая публікацыя.

“Яўхім Карскі ў даследаваннях другой паловы XIX стагоддзя залічваў іхную тэрыторыю да этнічнай тэрыторыі беларусаў, – распавядае Лабачэўская. – Лічыў тудаўлянаў з паходжання беларусамі. Шырока стала вядома пра тудаўлянаў, калі ў 1926 годзе даследчыца Надзея Грынкова надрукавала артыкул “Одежда тудовлян Ржевского уезда”. Яна піша, што самыя старажытныя насельнікі там – фіны і балты. А ўвогуле гэтая тэрыторыя на стыку славянскіх групаў севяранаў, вяцічаў і крывічоў была да канца XVI стагоддзя фарпостам Вялікага Княства Літоўскага, уваходзіла ў склад Рэчы Паспалітай. У XVII стагоддзі землі адышлі да Расіі. Сказаць, перасяленцы гэта ці аўтахтоннае насельніцтва, цяжка. Грынкова адзначае, што яны асіміляваныя, хоць і захаваліся сляды беларускасці ў гаворцы і касцюмах. Этнограф Наталля Лебедзева адзначала, што там хутчэй “вялікарускае” насельніцтва, хоць з рысамі больш заходняй культуры. На сённяшні дзень гэта адзіная крыніца этнаграфічных звестак, бо ў 1927 годзе даследаванні былі спыненыя, шмат навукоўцаў рэпрэсавалі, і ніхто тудаўлянаў пазней не вывучаў”.

### Што ў тудаўлянаў асаблівае?

Сляды беларускага амаль не захаваліся ў мужчынскім адзенні тудаўлянаў, але ў 1920-я былі відаць у жаночым. Да пэўнага часу захоўваліся адметна беларускія абрад “бабіна каша” і гульня “каралі ці проса”. Дзенідзе захаваліся сляды незвычайнай для Расіі гаворкі.

У 1920-я суседзі Маладатудскай воласці (якая атрымала назву ад сяла Малады Туд, а тое, як і тудаўляне, ад ракі Туд) называлі тыя землі “белакафтаншчынай” і “Польшчай”. Цверскі краязнаўца Марк Ільін казаў, што “тудаўляне нібы размаўляюць і парасейску, а нічога не зразумець”.

Тудаўлянская фанетыка мела яканне (“мяне”, “сястрыцы”, “нямношка”...), уласцівае паўночна-ўсходняму дыялекту беларускае мовы дысіміляцыйнае яканне, калі ў першым складзе перад націскным [а] вымаўляецца гук, блізкі да [ы] (“трыва” і “тыбак” замест “трава” і “табак”). У некаторых пазіцыях ненаціскныя [а], [о] і [ы] пераходзілі ва [у] (“сумавар”). Перад пачатковым [о] з’яўляўся прыстаўны [в] (“возера”). Часта сустракаўся фрыкатыўны (як у беларускай мове) гук [г], шыпячыя былі зацвярдзелыя. Гукі [в] і [л] у канцы складу пераходзілі ва [ў]. Назіралася цоканне, калі [ц] і [ч] зліваліся ў адзін гук, таксама збег зычных [бм] пераходзіў у [мм].

У тудаўлянаў былі нетыповыя для расейцаў словы: так, калі яны адпачывалі, казалі “залочуем”; напёкшы бліноў, казалі “саткі напецены”; а калі ў іх нешта было, яны казалі, што ў іх гэта “ёсь”. А былі і такія словы, якія пазнае беларус, але якія не сустракаюцца на ўсходзе Цвярской вобласці: “цыбуля”, “гульня”, “панядзелак”, “вітацца”.

“Тудаўляне – гэта адна толькі група, іх там было шмат, – дадае Лабачэўская. – У Расіі цяпер ёсць тэндэнцыя шукання сваіх каранёў. Мне даслалі ліст з Яраслаўскай вобласці, там шукаюць звестак пра такую групу, як магілі – перасяленцы з Магілёўскай губерні канца XIX стагоддзя. Такі рух і там, не кажучы ўжо пра Сібір, дзе ў перасяленцаў прысутнічае беларускасць у свядомасці. Ну і бывае, што са Смаленшчыны ці Браншчыны вёскі просяцца, каб іх узялі да Беларусі. Адчуваецца, што беларуская самасвядомасць пачынае абуджацца ў Расіі”.

**АА, “Радыё Свабода”**



гутарка

# Ігар Іваноў: СКАРЫНАЎСКАЯ БІБЛІЯ – ГЭТА СМАРТФОН ТАГО ЧАСУ

Дарадца ў Беларускім музеі і бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лондане распавядае пра гісторыю і перспектывы і скарбы, якія там захоўваюцца.

Скарынаўская бібліятэка ў Лондане – унікальны цэнтр беларускай гісторыі і культуры за мяжой. Рукапісы, кнігі і артэфакты, назапашаныя дзякуючы нашым суайчыннікам, якія ўцякалі ад "бальшавіцкага раю", ператварыліся ў неацэнны скарб, які дазваляе даследаваць Беларусь як замежнікам, так і самім беларусам.

**– Як даўно вы займаецеся бібліятэкай?**

– Я трапіў на вучобу ў Лондан ў 1998 годзе, жыць давялося праз два будынкі ад бібліятэкі, дзе быў студэнцкі дом Беларускай каталіцкай місіі. Мы дапамагалі ў мерапрыемствах, якое ладзіла Згуртаванне беларусаў Вялікабрытаніі. Пэўны час я працаваў у бібліятэцы як асістэнт. Вырашыў, што хачу быць прафесійным бібліятэкарам і пачаў працаваць больш сур'ёзна. Структура бібліятэкі валанцёрская, няма штатных супрацоўнікаў, але ёсць адказныя людзі, ёсць рада.

**– Музей, бібліятэка і грэка-каталіцкі цэнтр – гэта адна структура ці розныя?**

– Усё пачыналася з беларускай каталіцкай місіі а. Чэслава Сіповіча. З ім быў а. Леў Гарошка. А. Аляксандр Надсан кіраваў каталіцкай школай праз дарогу ад бібліятэкі. Калі а. Леў Гарошка перавёз з Парыжа ў Лондан свой кнігазбор, аказалася, што пад яго патрэбны цэлы пакой: шэсць з паловай тысяч кніг – беларускіх або пра Беларусь. Шмат якія выданні належалі да міжваеннага часу і ў БССР захоўваліся ў спецсховах. Іншай такой калекцыі ў Вялікабрытаніі не было, таму людзі, якія цікавіліся Беларуссю, прыходзілі менавіта сюды. Справа пайшла добра, і для бібліятэкі спатрэбіўся асобны будынак! Яго набылі: праз дарогу.

**– А скуль узяўся музей?**

– Беларусы ехалі на Захад з СССР не з пустымі рукамі. Бралі самае дарагое: іконы, кнігі, ручнікі і г.д. Калі не маглі ўтрымліваць пры сабе ці хацелі зрабіць добрую справу – аддавалі сюды. Да таго ж, святары аб'язджалі Нямеччыну, Італію, Францыю, Брытанію, каб скупіць у букіністычных крамах усё, што тычылася Беларусі. Пасля вайны цэны былі невялікія, асабліва на беларускі матэрыял. Святары паспелі скарыстацца момантам – і так паўстаў музей і бібліятэка як адна інстытуцыя.

**– Ці лёгка да вас трапіць?**

– Бібліятэка стваралася для даследчыкаў, якія прыязджалі і фактычна жылі тут – у асобным пакоі. Нават ангелец прафесар Макмілін жыў тут, каб не адрывацца ад працы. Некаторыя жылі задарма, некаторыя плацілі, калі мелі сродкі на даследаванне. У любым разе гэта было танней, чым у гатэлі. Прыязджалі людзі з Ізраіля, Нямеччыны, Штатаў і г.д. Атрымлівалася, што даследчыкі беларушчыны з розных канцоў свету падчас працы жылі ў беларускім асяродку.

**– Што наконт звычайных беларусаў-турыстаў?**

– У нас ёсць што паглядзець: фрагмент "Кнігі Царстваў" Скарыны, два асобнікі Статута ВКЛ, супрасльскія выданні і г.д., калекцыя вышываных кашуляў і ручнікоў. Маем адзін з чатырох альбомаў этнаграфічнай экспедыцыі Ластоўскага. Альбомы захоўваліся ў Гістарычным музеі ў Мінску, але цягам вайны калекцыя рабавалася – захаваўся толькі адзін. У музеі ёсць крыж з адной з мінскіх цэркваў. Яго падняў на вуліцы нямецкі жаўнер і прывёз з сабой у Германію. Пасля вайны ён даведаўся пра наш музей і яго перадаў.

**– Лагерная роба Ларысы Геніюш таксама ў вас?**

– Робу Геніюш і яе рукапісы перадаў нам яе сын Юрка, які жыў у Беластоку. Такія рэчы немагчыма было трымаць у БССР альбо ў краінах савецкага блоку, таму і ратавалі хто як мог. Унікальнай з'яўляецца і новазбудаваная грэка-каталіцкая царква тут жа – першая драўляная царква ў Лондане, якая паўстала пасля вялікага пажару ў 1666 годзе. Яе цікава было б пабачыць турыстам з усяго свету.

**– Ангельцы цікавяцца беларушчынай?**

– Дзякуючы Скарынаўцы з беларускай тэмай працуе багата брытанскіх даследчыкаў. Арнольд Макмілін у мінулым годзе выдаў сваю чарговую кнігу, гэтым разам пра маладых беларускіх паэтаў. Шмат пра каго з іх яшчэ і па-беларуску не напісана, а праца па-ангельску ўжо ёсць! Гай Пікарда таксама працаваў у нас: ён цікавіўся рускай царкоўнай культурай, а пасля перайшоў на беларускую, і быў першым, хто пачаў вывучаць нашу царкоўную музыку і адкрыў яе самім беларусам. Мовазнаўца прафесар Маё напісаў адзін з падручнікаў беларускай мовы па-ангельску, карыстаючыся нашымі матэрыяламі…

**– Магчыма, ёсць нейкая статыстыка?**

– За першыя сорак гадоў працы такіх было больш за тысячу.

**– Роля бібліятэкі і музея з часам змяняецца?**

– Так, на гэта ўплываюць і тэхналогіі, і палітыка. Беларусь жа цяпер стала адкрытай краінай.

**– А ці ёсць магчымасць віртуальна працаваць з вашымі матэрыяламі?**

– Капіяванне рукапісаў і манускрыптаў пачалося з 1980-х гадоў. Гай Пікарда капіяваў і перасылаў матэрыялы ў Беларусь. Марыя Міцкевіч, унучка Якуба Коласа, пачала капіяваць ды перадаваць рукапісы Купалы, "Курган" і інш. у музеі Купалы і Коласа. Значная частка артыкулаў часопіса "Спадчына" паводле эміграцкіх матэрыялаў зроблена з нашай дапамогай. Цяпер ёсць магчымасць аблічбоўваць: пачалі з часопісу "Божым Шляхам" – цяпер у сецівe дасяжныя ўсе нумары. І гэта толькі пачатак. Да нас прыязджаў намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Алесь Суша ды іншыя яе прадстаўнікі, каб апрацаваць выданні, якія ў іх адсутнічаюць.

**– Ёсць вопыт Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў ЗША, які перадаў свае калекцыі ў Беларусь. Ці можа такое адбыцца са Скарынаўкай?**

– Такі варыянт разглядаўся, ён мае і моцныя, і слабыя бакі. Беларусь не абмяжоўваецца сваімі дзяржаўнымі межамі. Ёсць панятак мяккай дыпламатыі. Палякі маюць Польскі інстытут у Лондане, дзе штогод адбываецца фестываль польскага кіно. Германія мае Інстытут Гётэ, што працуе з замежжам. Кітай укладае грошы ў вывучэнне кітайскай мовы за сваімі межамі. Малайзія фінансуе малайзійскія рэстараны па ўсім свеце. Лондан – адзін з цэнтраў свету, і гэта вялікі здабытак, што ў нас там ужо ёсць свой музей і бібліятэка.

**– То бок, як і ў выпадку са Скарынам, Беларусь ідзе ў шырокі свет "з кнігай"?**

– Гэта вельмі трапна. Робіцца зразумелым, чаму дыяспары быў патрэбны Скарына. Гэта сімвал Беларусі адукаванай, прадпрымальнай, якая ідзе і на Захад, і на Усход, якая вучыцца і стварае. Скарынаўская друкаваная Біблія – смартфон таго часу. І тое, што зараз беларусы ізноў ідуць у свет з тэхналогіямі – MSQRD, World of Tanks, Maps.me і інш. – вельмі сімвалічна. 500 гадоў таму Скарына рабіў дакладна тое самае.

**– Вы працягваеце купляць экспанаты ці выключна захоўваеце сабранае?**

– Нават каб і хацелі, спыніцца, мы не можам. Людзі ведаюць бібліятэку і проста дораць нам. Немагчыма купляць усё, але мы працягваем. Ёсць прыярытэтныя рэчы.

**– Якімі вы бачыце перспектывы Скарынаўкі?**

– Гэта будзе залежаць ад таго, як развіваецца беларуская супольнасць. Бібліятэка стваралася для даследчыкаў, але ўсё адно была дзіцем беларускай грамады ў Лондане. Яна будзе жыць, але яе роля зменіцца. Даследчыкам сёння патрэбныя базы дадзеных, на Захадзе манаграфіі часта ўжо не выходзяць на паперы. З іншага боку, каб аблічбаваць нашыя матэрыялы, патрэбная супраца, у тым ліку з дзяржаўнымі ўстановамі. Мы працягваем працаваць, збіраць і цешымся, калі знаходзім кантакты з інстытуцыямі сучаснай незалежнай Беларусі.

**Размаўляў Алесь Кіркевіч, budzma.by**

навіны

# У ВАРШАВЕ СТВАРАЮЦЬ СУБОТНЮЮ БЕЛАРУСКУЮ ГРУПУ Ў САДКУ

Для стварэння такой групы польскае заканадаўства патрабуе ўсяго траіх дзяцей, а зацікаўленых ужо каля дзясятку сем'яў. "Радыё Свабода" пагутарыла з Алесем Лукашэвічам, адным з ініцыятараў гэтай ідэі.

**– Калі Вы жывяце ў Варшаве, то ці не павінны вашыя дзеці хадзіць у польскі садок?**

– Мы імкнемся стварыць міжсадковую групу, якая б сустракалася па суботах на тры гадзіны – столькі прадугледжвае закон – у нейкай вызначанай самакіраваннем школе ў цэнтры Варшавы. Ладзім гэта, каб дзеці бачылі, што па-за ўласнай хатай беларуская мова таксама функцыянуе.

**– Колькі бацькоў і дзяцей зацікаўленыя ў стварэнні беларускай групы?**

– Пакуль што зацікавіліся каля дзесяці сем'яў.

**– Якія ўмовы неабходна выканаць для стварэння такой групы?**

– Дастаткова знайсці траіх дзяцей з дадзенай гміны. Гаворка вядзецца пра дзяцей, якія нарадзіліся ў 2014 годзе і раней, маюць польскае грамадзянства, прапісаныя ў Варшаве (у нашым выпадку), і ў якіх мама ці тата – беларус. Пры гэтым бацькі не мусяць мець польскага грамадзянства, дастаткова карты побыту альбо візы.

**– Якія ўмовы гарантуе польская дзяржава ў такой групе? Патрэбныя ж выхавацелі, заробак, харчаванне, абсталяванне?**

– Падрабязнасці стануць вядомыя пасля таго, калі створым групу і абмяркуем нашыя патрэбы з варшаўскім самакіраваннем. Пакуль магу толькі адзначыць, што заняткі будуць весціся прафесійнымі настаўнікамі і выхавацелямі на тым жа ўзроўні, што і іншыя заняткі. Адзнака з гэтых заняткаў будзе ў школьных пасведчаннях.

**– Ці спрабавалі вы атрымаць дапамогу ад беларускай дзяржавы?**



Алесь Лукашэвіч з дачкой.

– Я думаю, што мы задаволімся дапамогай беларусаў. Было б цікава, напрыклад, запрашаць на такія заняткі нейкіх вядомых людзей у галіне адукацыі і беларускай мовы. Але пакуль што трэба ўвогуле пачаць.

**– Што Вас асабіста матывуе да таго, каб Вашыя дзеці ведалі беларускую мову? Ці магчыма выхаваць за мяжой дзяцей-беларусаў?**

– Мне здаецца, што для бацькоў, якія адгукаюцца на нашую ініцыятыву, беларуская мова – частка светапогляду і адзін з асноўных элементаў нацыянальнай свядомасці. Яны самі з'яўляюцца актыўнымі носьбітамі мовы і жадаюць, каб іхнія дзеці мелі ўяўленне пра карані і культуру краіны, з якой паходзіць іх род. Выхоўваць дзяцей па-беларуску за мяжой складана, таму ладзім падобныя ініцыятывы, каб нейкім чынам "інстытуцыяналізаваць" нашыя выхаваўчыя і адукацыя памкненні. Але з падобнымі праблемамі шмат хто сутыкаецца і ў Беларусі. Беларускамоўныя людзі, якія жывуць у цяперашняй Беларусі, у пэўным сэнсе таксама ў эміграцыі, толькі ўнутранай. Як бы там ні было, беларуская мова – гэта культурны код людзей з высокай матывацыяй і актыўнай жыццёвай пазіцыяй.

Дзмітры Гурневіч, "Радыё Свабода"

# ЯПОНСКАЯ АСПІРАНТКА: КОЖНЫ ДЗЕНЬ РАЗМАЎЛЯЮ ПА-БЕЛАРУСКУ

Аспірантка Цукубскага ўніверсітэта Сіёры Кіёсава напісала падручнік для вывучэння мовы японцамі.

Сіёры спачатку вывучала рускую мову, потым ад настаўніка даведалася пра існаванне беларускай мовы і ўключыла яе ў тэму сваёй дысертацыі. У 2012 годзе яна атрымала магчымасць прыехаць у Беларусь і вывучаць мову тут. Па вяртанні Сіёры Кіёсава арганізавала курсы беларускай мовы ў Японіі, на якія хадзіла дзесяць чалавек. Нягледзячы на тое, што колькасць вучняў курса не павялічылася, Кіёсава бачыць змены і ў Японіі, і ў Беларусі ў стаўленні да беларускай мовы.

– Я шмат яшчэ чаго не чытала па-беларуску, але ёсць адзін верш, які мне вельмі падабаецца. Гэта верш Рыгора Барадуліна "Трэба дома бываць часцей...". З гэтым фрагментам я пазнаёмілася ў аэрапорце, калі вярталася ў Японію. Радкі аздаблялі сцены аэрапорта, – тлумачыць Сіёры. – Вершаваныя радкі адразу нагадалі мне пра родны дом і маіх бацькоў, якія мяне чакаюць у Японіі. Разам з тым мне падалося, што радкі ненавязліва заклікаюць мяне: вяртайся хутчэй у Беларусь, на тваю другую радзіму.

Сіёры гаворыць, што цяпер заўсёды ўспамінае гэты верш перад вяртаннем у Японію і ў Беларусь. У сценах філфака яе добра ведаюць, кожны падыдзе і спытае, ці надоўга японка прыехала, сябры абменьваюцца падарункамі, сувенірамі, кніжкамі і салодкім.

Яна кажа, што калі прыязджае ў Беларусь, то ў магазінах і транспарце часцей размаўляе па-руску.

– Людзі размаўляюць па-руску, і я не хачу ім перашкаджаць. Але калі чалавек размаўляе па-беларуску, то я адразу пераключаюся на беларускую. Людзі не чакаюць, што я загавару



па-руску, а з майго ведання беларускай мовы і ўвогуле здзіўляюцца. Калі заходжу ў кнігарню "Логвінаў", беларускамоўны прадавец, калі чуе ад мяне мову, заўсёды дзівіцца, – успамінае Сіёры.

Навуковец гаворыць, што спачатку яе здзіўляла такое стаўленне да роднай мовы. Але з часам яна прачытала гісторыю Беларусі і даведалася пра яе складаны лёс. У Сіёры атрымліваецца бываць у Беларусі раз ці два разы на год на канферэнцыях ці мерапрыемствах, і зараз яна заўважае змены ў стаўленні да беларускай мовы.

– Гэтыя змены адбываюцца не так хутка, як ва Украіне, напрыклад, ці іншых славянскіх краінах. Але паступова сітуацыя змяняецца, і новае пакаленне, якое нарадзілася не ў СССР, стварае новае грамадства. У 2013 годзе тут толькі пачыналіся курсы "Мова цікава" – першы крок. Зараз больш людзей цікавяцца беларускай мовай, з'явіліся курсы "Мова нанова" і іншыя.

Сіёры Кіёсава прызнаецца, што ёй цяжкавата размаўляць па-беларуску без інтэнсіўнай практыкі. Хаця яна амаль не шукае словаў, яна ўпэўнена, што ёй яшчэ трэба шмат вучыцца.

Яна тлумачыць, што для японцаў гукі "л" і "р" адчуваюцца аднолькава, таму і ёй спачатку было цяжка іх адрозніваць. Такая ж гісторыя з гукамі "дз" і "з".

– Настаўнік пачынала занятак з практыкі, давала словы, якія адрозніваюцца паміж сабой менавіта гэтымі гукамі.

Сіёры размаўляе па-беларуску кожны дзень, нягледзячы на тое, што ў роднай Японіі з ёй мала хто можа падтрымаць размову на гэтай мове. Але праз інтэрнэт ды ў сацыяльных сетках Сіёры піша сябрам, чытае беларускую літаратуру і артыкулы. Беларускіх пісьменнікаў у арыгінале яна амаль не чытала, але кажа, што давялося прачытаць на японскай мове апавяданне Васіля Быкава "Мёртвым не баліць". "Гэты твор магу назваць маім любімым", – дадае Сіёры.

З таго моманту, як Сіёры пачала вывучаць беларускую мову, яна разам з выкладчыцай, дацэнтам кафедры сучаснай беларускай мовы філалагічнага факультэта БДУ Таццянай Рамзай, напісала падручнік для японцаў.

– У 2015 годзе я выкладала беларускую мову на сваім факультэце, і там матэрыялы карысталіся вялікім попытам. Людзей на курсах не павялічылася, але мне здаецца, што больш людзей цікавяцца беларускай мовай. Часта мяне пытаюцца, якое адрозненне рускай мовы ад беларускай, просяць распавесці пра культуру Беларусі. Замежная мова з'яўляецца бар'ерам для іншага чалавека. Але пасля таго як я пачала яе вывучаць, гэты бар'ер ператварыўся ў дзверы. Адчыніць іх было не так проста, але потым перада мной разгарнуліся не толькі цікавейшыя звесткі пра Беларусь, але і надзейныя сябры. Цяпер беларуская мова ўспрымаецца ўжо амаль як родная, хаця я валодаю ёй яшчэ не зусім свабодна. Яна дае мне апірышча, спакой і цяпло ў душы, як родная японская.

Анастасія Лук'янава, tut.by



# ТРЭБА ЧАСЦЕЙ СУСТРАКАЦЦА

4 лютага ў Цюрыху адбыўся канцэрт Лявона Вольскага.

Прагучалі песні з “Народнага альбома”, праекта “Снежны завулак”, альбома “Псіхасаматыка”, некаторыя хіты гурта “Крамбамбуля” і інш.

Выступ быў вельмі інтэрактыўны. Слухачы падпявалі з месцаў і выходзілі для бэк-вакалу на сцэну: дзяўчаты выконвалі песню “Казік”, а хлопцы – “Марскі чалавек”. Падчас песень “Паветраны шар” і “Тры чарапахі” танчыла ўжо ўся зала.

“Цюрых – гэта месца, дзе вельмі прыгожа спяваюць дзяўчаты, а хлопцы спяваюць не горш за іх. Трэба часцей сустракацца!” – выразіў надосталь агульную думку Лявон.

**Вольга Крук, “Беларускае аб’яднанне ў Швейцарыі”**

навіны

# БЕЛАРУСЫ НЬЮ-ЁРКА АДЗНАЧЫЛІ ДЗЕНЬ ЗАКАХАНЫХ

Амаль паўсотні беларусаў, а таксама выхадцы з Украіны і Малдовы сабраліся разам, каб адзначыць Дзень Святога Валянціна.

Імпрэза адбылася ў межах сходу суполкі “Пагоня”. Вольных крэслаў ва ўтульнай канферэнц-залі хапіла далёка не ўсім, аднак цёплыя абставіны сустрэчы надоўга запомняцца ўдзельнікам мерапрыемства.

Спярша кіраўнік Беларуска-Амерыканскага Згуртавання “Пагоня” Віталь Зайка распавёў пра бягучую дзейнасць суполкі, а таксама звярнуў увагу прысутных на беларускамоўныя выданні, якія друкуюцца ў ЗША, у прыватнасці, альманах “Беларус”.

Добра ўзняў настрой прысутных выступ паэткі Ірыны Хадарэнка, якая падзялілася з аўдыторыяй сваімі вершамі і паэтычнымі творамі класікаў айчыннай літаратуры, а таксама правяла жартоўную віктарыну з салодкімі прызамі.

Сімпатыі гасцей вечарыны заваяваў музыка Валеры Клімовіч, які пранікнёна выканаў добра вядомыя хіты пад гітару і нават быў выкліканы “на біс” пад гучныя апладысменты.

Спадарыня Валянціна Якімовіч запрасіла ахвотных далучыцца да ўдзелу ў традыцыйным абрадзе гукання вясны напачатку сакавіка. У сваю чаргу, спадарыня Валянціна Трыгубовіч заахвоціла



жыхароў мегаполіса рабіць ахвяраванні на падтрымку выдання твораў паэта Уладзіміра Дубоўкі.

Заснавальніца беларускамоўнага кінаклуба ў Нью-Ёрку Наста Сергіеня анансавала чарговы кінапаказ, прымеркаваны да Дня закаханых.

А культарганізатар Ганна Шарко падзялілася творчымі планамі на вясну, сярод якіх правядзенне імпрэзы з удзелам вядомых музыкаў з Беларусі.

Сяброўская атмасфера сустрэчы, садзейнічала таму, што людзі ахвотна распавядалі пра сябе і усталёўвалі новыя кантакты. Было шмат моладзі, што дае надзею на захаванне мовы і традыцый за акіянам сярод будучых пакаленняў беларусаў.

**“Пагоня”**

# РУЧНІКОМ ЗЛУЧАЕМ ДУШЫ

У Даўгаўпілсе 3 лютага ў малой зале гарадскога Палаца культуры прайшла сустрэча “Беларускі ручнік. Сувязь часоў”.

Правяло імпрэзу Беларускае культурна-асветніцкае таварыства “Уздым” – у плыні праекта Саюза беларусаў Латвіі “Беларускі ручнік – сімвал нацыянальнай культуры”.

Летась распачаўся вялікі супольны праект усіх беларускіх суполак Латвіі: мы разам вышываем 7-мятровы Ручнік, на якім будуць ушанаваныя назвы беларускіх суполак.

Ганаровымі гасцямі на вечарыне былі консулы Беларусі ў Даўгаўпілсе Антаніна Струнеўская і Дзмітры Канстанцінаў. Пра ход праекта распавялі старшыня Саюза беларусаў Латвіі Валянціна Піскунова і старшыня беларускага таварыства “Прамень” з Рыгі, яна ж і кіраўніца праекта Алёна Лазарава.

Пра гісторыю ды адметнасці беларускага ручніка расказалі вядучыя свята: Іна Валюшка, Вольга Паўловіч, Валянціна Ліпінская, Тэрэза Паўлава, Вера Сухарава, Людміла Сінякова. Аповеды суправаджаліся паказам слайдаў, якія падрыхтавала Таццяна Дзянісава.

Зазірнуў да нас гурт украінскай суполкі “Мрія”: сябры расказалі пра свае ручнікі. На свяце быў і гурт “Балагуры” Рускай школы-ліцэя.

Дэбютаваў з прыпеўкамі на канцэрце выхаванец беларускай школы “Вясёлка”, якая працуе пры таварыстве “Уздым”, Павел Бучэль. Акампанавала яму мама – Алена Бучэль, выпускніца гэтай жа школы, а цяпер намесніца старшыні праўлення суполкі “Уздым”. Запомнілася выступленне маладой спявачкі Святланы Ліпінскай. Як заўсёды, на вышыні была спявачка Зінаіда Сіліня.

Гурт “Спадчына” (кіраўніца Яніна Юзэфовіч) выканаў песню “Бацькоўскі кут” на музыку Станіслава Клімава і словы Станіслава Валодзькі. Парадавалі гурты “Купалінка” (кіраўнік Вячаслаў Пятроў) з салісткай Любоўю Кавалёвай, танцавальны “Лянок”. Сумесна яны выканалі песню (музыка Альберта Белуся, словы Станіслава Валодзькі) ды танец “Ручнік”.

Падчас свята ладзілася выстава



ручнікоў, сабраных сябрамі “Уздыму”, якія захоўваюцца ў Цэнтры беларускай культуры.

Эстафетны 7-мятровы ручнік ад беларускай суполкі Вентспілса перадалі беларусам “Уздыму”.

Дзякуем за падтрымку, дапамогу кіраўніцы Цэнтра беларускай культуры Жанне Раманоўскай. Дзякуем усім за цікавасць да імпрэзы. За тое, што мы разам, як нітачкі ў ручніку.

**Людміла Сінякова, “Голас Радзімы”**

# НА БАЛІ НАРОДАЎ ГУЧАЛІ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

5 лютага ў даўгаўпілскім Цэнтры латышскай культуры прайшоў Баль народаў, арганізаваны Асацыяцыяй нацыянальных меншасцей Латгаліі пры падтрымцы Даўгаўпілскай гарадской думы і Упраўлення культуры.

Тэмай балю было каханне, паколькі баль праходзіў напярэдадні Дня закаханых. Песні пра каханне гучалі на дзевяці мовах.

Беларускую каманду прадстаўлялі Цэнтр беларускай культуры (ЦБК), культурна-асветніцкае таварыства “Уздым” і Таварыства Латвійска-беларускай садружнасці. Вакальна-інструментальны ансамбль “Пралескі” выканаў народную песню “Каля млына”, а харавая капэла “Спадчына” – песню “Бацькоўскі кут” на словы Станіслава Валодзькі. Беларускую польку дружна танчылі пад кіраўніцтвам Марыны Медунецкай і Таццяны Дзянісавай (ансамбль “Лянок”) і акампанемент Вячаслава Пятрова (ансамбль “Купалінка”). Для гульні ў “падушачку” пад спевы Інэсы Казлоўскай усталі ў карагод усе ўдзельнікі балю.

Кіраўніца Асацыяцыі нацыянальных меншасцей Латгаліі Вольга Эсэ ўручыла падзячныя граматы Даўгаўпілскай гарадской думы прадстаўнікам усіх арганізацый, у тым ліку шасці беларусам. Па рэкамендацыі Цэнтра беларускай культуры за захаванне і папулярызацыю беларускай мовы ўзнагароджана метадыст ЦБК Марыя Памецька; за шматгадовую валанцёрскую працу і папулярызацыю беларускай песні – Яніна Юзэфовіч (кіраўніца “Спадчыны”). Па рашэнню “Уздыму” ўзнагароды атрымалі актывісты арганізацыі Тэрэса Паўлава і Валянціна Ліпінская.

У сваю чаргу, ад Таварыства Латвійска-беларускай садружнасці граматы самакіравання атрымалі салістка ансамбля “Пралескі” Юлія Хмяльніцкая; за стварэнне беларускай друкаванай газеты “Уздым” і часопіса – першы рэдактар выданняў Жанна Раманоўская.

Прыміце нашы віншаванні, сябры!

**“Цэнтр беларускай культуры” (Даўгаўпілс, Латвія)**

**навіны**

# “МОВА НАНОВА” Ў КАНАДЗЕ

“Мова Нанова ў Таронта” гэтым разам была прысвечана Вялікаму Княству Літоўскаму. У Беларускім Цэнтры Таронта сабраліся блізу шасцідзесяці чалавек.

Кіраўніца праекту Ірына Тоўсцік распачала вечарыну з прамовы пра надзённасць азначанай тэмы, а затым прадставіла прысутным госцю – гісторыка Галіну Сяргееву, якая распавяла пра кнігу Алега Трусава “Гісторыя сярэднявечнай Еўропы V–XV стагоддзяў”, якая адна з першых у папулярнай айчыннай гістарыяграфіі выкладае асноўныя падзеі і з’явы гісторыі сярэднявечнай Еўропы з беларускіх пазіцый.

Апрануты ў магнацкія строі першае паловы XVI стагоддзя, Алесь Кот, бразнуўшы адзін аб другі ліцвінскім і крыжацкім мячамі распачаў свой выступ пра вайсковую гісторыю ВКЛ і менталітэт ліцвінскага (беларускага) народа з ягонай прагай да незалежнасці і свабоды, задушыць якую не змагла ніякая акупацыя, а таксама пра прычыны заняпаду Рэчы Паспалітай. У працяг тэмы прысутныя паглядзелі відэаролік з канала “Белсат” з расповедам доктара гістарычных навук Алеся Краўцэвіча.




Алесь і Сьвета Кот (’’Радзівілы’’) распачынаюць баль.

Алена Лявончанка распавяла пра акалічнасці набыцця арыгіналу Статута магілёўскім краязнаўчым музеем.

Наведвальнікі заняткаў чыталі ўголас асобныя артыкулы Статуту і перакладалі іх на сучасную мову.

Канадская дызайнерка, заснавальніца кампаніі “Spirit of Belarus“ Ірына Варабей распавяла пра паэму Міколы Гусоўскага “Песня пра Зубра” і свае ўражанні ад занёмства з ёй, якія яна, у свой час, выклала ў нарысе “Краіна вольных волатаў”.

Віталь Кошалеў тлумачыў некаторыя падзеі з гісторыі ВКЛ.

Пасля тэарэтычных заняткаў Ірына Тоўсьцік запрасіла гасцей на “Баль у Радзівілаў”. Ролю гаспадароў выконвалі апранутыя па-магнацку Алесь і Света Кот.

Спадарыні ў вячэрніх строях у суправаджэнні кавалераў былі запрошаныя кіраўніцай гурта “Яваровы Людзі” Віялетай Кавалёвай на развучванне паланэза. За паланэзам надышла чарга паваны – павольнага ўрачыстага сярэднявечнага танцу. А калі прысутныя, стаўшы ў кола, узяліся за рукі і пачалі танчыць, прыстук сотні абцасаў аб падлогу з прыплясскваннем у далоні стварыў у прасторы такую аўру духоўнай еднасці, што ажно дух заняло. Напэўна, у тым ліку і дзеля гэтага варта завітваць на такія вечарыны. Каб і тут, на чужыне, адчуць дух Беларушчыны, грамадскую еднасць, адчуць сябе неад’емнаю часткаю Беларускае Нацыі.

**Алесь Кот**

# У МАЛДОВЕ ЎШАНОЎВАЮЦЬ БЕЛАРУСКУЮ МОВУ

21 лютага Бюро міжэтнічных адносін Рэспублікі Малдова арганізавала круглы стол на тэму “Мова, якая аб’ядноўвае нас”.

Генеральны дырэктар Бюро міжэтнічных адносін Алег Бабенка ў сваім выступе адзначыў, што гэтая акцыя заклікана дапамагчы абараніць і адрадзіць багацце культурнай разнастайнасці шляхам прасоўвання моў як формы узаемадзеяння і ўзаемаразумення паміж народамі.

Таксама ў мерапрыемстве бралі ўдзел саветнік прэм’ер-міністра Міхай Годзя, прадстаўнікі цэнтральнага ўрада, Міністэрства адукацыі, дыпламатычных місій, лідары этнічных меншасцяў і прадстаўнікі грамадзянскай супольнасці ў Рэспубліцы Малдова.

Міхай Годзя паведаміў, што малдаўскі ўрад звяртае ўвагу на пытанні развіцця моў этнічных меншасцяў у краіне.

Падчас працы тэматычнай сесіі “Гаворым і шануем родную мову” Беларускі культурны рух Малдовы акрэсліў шэраг пытанняў, звязаных з функцыянаваннем беларускай мовы у Малдове: у краіне няма ніводнай адукацыйнай формы, якая дазваляла б ахвочым паўнавартасна вучыць беларускую мову. Праўленне аб’яднання падзякавала кіраўніцтва Бюро міжэтнічных адносін за спрыяльны псіхалагічны клімат для захавання беларускай мовы і культуры ў Малдове. Пры канцы сустрэчы сябры Беларускага культурнага руху Малдовы выканалі паэтычную замалёўку “Мая мова” на вершы Яўгеніі Янішчыц і Генадзя Бураўкіна.



Сёння, дзякуючы намаганням беларусаў Малдовы, беларускую мову можна пачуць на нацыянальным радыё “Moldova” (штомесячная перадача “Беларуская крыніца”), можна чытаць беларускія кнігі, паколькі існуе добры фонд беларускай літаратуры ў муніцыпальнай бібліятэцы імя М.Ламаносава ў Кішынёве. Кожны можа ўдзельнічаць у інтэрактыўных беларускамоўных спектаклях беларуска-малдаўскага этнічнага тэатра “Куфар”. Штогод да нас прыязджаюць беларускія творчыя калектывы.

**Ганна Мазур, Старшыня Праўлення БКРМ**

## Беларускі каляндар памятных дат на сакавік 2017 года

2 сакавіка – 455 гадоў таму, у 1562-м, нарадзіўся Крыштаф Мікалай Дарагастайскі, дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, заснавальнік друкарні мястэчка Ашмяна Мураваная.

4 сакавіка – 90 гадоў таму, у 1927-м, нарадзіўся Міхась Дубянецкі, грамадскі дзеяч, кнігавыдавец.

5 сакавіка – 105 гадоў таму, у 1912-м, нарадзіўся Яўген Калубовіч (на эміграцыі Каханоўскі), гісторык, літаратуразнавец, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

7 сакавіка – 50 гадоў таму, у 1967-м, памёр Караль Румель, коннік-спартсмен, першы алімпіец з Беларусі (на алімпійскіх гульнях 1912 г. у Стакгольме).

8 сакавіка – 25 гадоў таму, у 1992-м, памёр Міхась Ракевіч, удзельнік патрыятычнага падполля 1946–1947 гг. у Заходняй Беларусі.

10 сакавіка – 75 гадоў таму, у 1942-м, нарадзіўся Міхась Ткачоў, грамадска-палітычны дзеяч, гісторык.

11 сакавіка – 130 гадоў таму, у 1887-м, нарадзіўся Алесь Гарун (сапр. Прушынскі), паэт.

12 сакавіка – 295 гадоў таму, у 1722-м, нарадзіўся Бенедыкт Дабшэвіч, філосаф.

13 сакавіка – 100 гадоў таму, у 1917-м, загінуў Уладзімір Хлябцэвіч, удзельнік нацыянальнага грамадска-літаратурнага руху пачатку XX ст.

15 сакавіка – 25 гадоў таму, у 1992-м, памёр Уладзімір Цвірка (да эміграцыі Вадзім Сурко), дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне, Вялікабрытаніі і Бельгіі.

17 сакавіка – 95 гадоў таму, у 1922-м, нарадзіўся Лявон Луцкевіч, грамадска-палітычны і культурны дзеяч.

19 сакавіка – 405 гадоў таму, у 1612-м, памерла Соф’я Алелька-Радзівіл, асветніца, прылічана да ліку Святых.

19 сакавіка – 155 гадоў таму, у 1862-м, памёр Аляксандр Валадковіч, адзін з кіраўнікоў паўстання 1830–1831 гг.

19 сакавіка – 130 гадоў таму, у 1887-м, памёр Юзаф Ігнацы Крашэўскі, гісторык, грамадскі дзеяч.

20 сакавіка – 95 гадоў таму, у 1922-м, памёр Алесь Бурбіс, дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху.

20 сакавіка – 25 гадоў таму, у 1992-м, памерла Тамара Чабан, літаратуразнавец.

21 сакавіка – 30 гадоў таму, у 1987-м, памёр Адам Русак, паэт-песеннік.

22 сакавіка – 135 гадоў таму, у 1882-м, нарадзіўся Эдзюк (Эдвард) Будзька, паэт, грамадскі дзеяч.

23 сакавіка – 90 гадоў таму, у 1927-м, нарадзіўся Уладзімір Шнэк, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Аўстраліі.

23 сакавіка – 75 гадоў таму, у 1942-м, загінуў Сяргей Ракіта (сапр. Законнікаў), паэт.

25 сакавіка – Дзень Волі.

25 сакавіка – 100 гадоў таму, у 1917-м, у Мінску пачаўся з’езд беларускіх нацыянальна-дэмакратычных арганізацыяў, заснаваны Беларускі нацыянальны камітэт (БНК).

25 сакавіка – 80 гадоў таму, у 1937-м, памёр Зыгмунт Нагродскі, паэт.

**Беларусы ў свеце**
No 2 (177), люты 2017
Інфармацыйны бюлетэнь
МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандрацэнка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 200-70-27